*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

Круглае Шклоў Бялынічы

# Рэгіён

**СТУДЗЕНЬ 2016 г.** **№ 1 (60)**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Почти на 30% вырос индекс цен на жилищно-коммунальные услуги в Могилевской области в 2015 году.**

В 2015 году жилищно-коммунальные услуги в Могилевской области в целом стали дороже на 27,9%, сообщили в Главном статуправлении Могилевской области. Максимальное подорожание коснулось пункта «жировки» - «Техническое обслуживание жилых помещений», тариф вырос на 45,5%. Водоснабжение стало дороже на 28,6%, электроснабжение – на 26,5%, газоснабжение – на 16,2%, отопление - на 14,2%.

**Як паведамляе belta.by, на пачатак 2016 года 141 арганізацыя ў рэспубліцы** пратэрмінавала заработную плату сваім супрацоўнікам. Агульная сума запазычанасці – 60,5 мільярдаў беларускіх рублёў. Фірмы-даўжнікі ёсць у Віцебскай, Гомельскай, Менскай абласцях і ў сталіцы. Большая частка прадпрыемстваў, якія не выплацілі грошы работнікам, займаецца сельскай, лясной гаспадаркай і паляваннем. У снежні 2015 года зарплату запазычылі 405 арганізацый.

Згодна афіцыйных дадзеных Белстата, пратэрмінаванай запазычанасці па зарплаце на пачатак 2016 года ў Магілёўскай вобласці няма. Паверым?

**Сложившуюся в филиале «Домостроение»** РУП «Завод газетной бумаги» в Шклове ситуацию, связанную с недозагрузкой его производственных мощностей, простоями, значительным объемом складских запасов, недоработками в маркетинговой политике, коллегия КГК оценила как критическую.

# ДАЧАКАЛІСЯ "КВІТНЕННЯ"

**Складваецца ўражанне, што беларускія ўлады канчаткова вызначыліся з тым, што праблемы ў эканоміцы яны будуць вырашаць за кошт простага народа. Пра сацыяльную дзяржаву ў адносінах да Беларусі можна зараз узгадваць толькі з пэўным гумарам.**




Кожны дзень з уладных структур прыходзяць навіны, якія прыносяць людзям вельмі мала радасці. З пачатку новага года зноў узняліся кошты на камунальныя паслугі, электраэнергію, транспарт, цыгарэты і цэлы шэраг тавараў. У сувязі з павелічэннем базавай велічыні да 210 тысяч рублёў значна выраслі памеры разнастайных штрафаў ды спагнанняў, якія так любіць наша "сацыяльна арыентаваная" здзіраць са сваіх простых грамадзян.

Долар і еўра растуць шалёнымі тэмпамі, таму нават апошні ідыёт разумее, што кошты на імпартныя тавары і прадукты ў бліжэйшы час таксама значна вырастуць. Аднак нашых слаўных чыноўнікаў гэта не вельмі турбуе, у дадатак да гэтага яны яшчэ і адмяняюць рэгуляванне цэн на цэлы шэраг сацыяльных тавараў. Простыя беларусы ж вельмі багатыя, могуць дазволіць купіць хлеб і малако нашмат даражэй.

Працоўную пенсію па ўзросце з 1 студзеня 2016 года будуць мець тыя, хто адпрацаваў не менш за 15,5 гадоў. Пазней мінімальны для працоўнай пенсіі стаж павялічаць да 20 гадоў. І хоць улады паабяцалі, што ў бліжэйшы час пенсійны ўзрост падвышацца не будзе, магу з упэўненасцю сказаць, што гэта абяцанне будзе дзейнічаць толькі да выбараў у "парламент", якія пройдуць восенню гэтага года.

«Уласна кажучы, ідзе павольная, але ўпэўненая адмова дзяржавы ад выканання сваіх абавязкаў. Грошы яна з вас збярэ. А вось назад аддаць у выглядзе пенсіяў – навошта яны вам. Вы ж жывяце ў самай светлай і мірнай краіне. Плаціце падаткі і не задавай лішніх пытанняў. Гэта значыць неабходны працоўны стаж за наступныя 9 гадоў давядуць да 20 гадоў. Дзеля чаго? Правільна, каб колькасць людзей, якія могуць разлічваць на пенсію, змяншалася. А хто ў

*(Працяг на стар. 5)*

## НА ЛЯДОВЫ ПАЛАЦ У ШКЛОВЕ ЗНАЙШЛІ ГРОШЫ: «ЯГО СПРАСЬЦІЛІ І ЗРАБІЛІ ТАНЬНЕЙШЫМ»

**Шклоўскія ўлады ў чарговы раз паабяцалі дабудаваць у райцэнтры лядовы палац. Першых наведнікаў арэна мусяць прыняць у кастрычніку 2016 году. У 2014 годзе запэўнівалі: аб’ект увядуць да красавіка 2015-га.**




Лядовы палац у Шклове узводзяць з 2010 году. Некалькі разоў працы прыпыняліся. У 2013 група актыўных жыхароў райцэнтру зьвярнулася з калектыўным зваротам да ўладаў, каб тая прысьпешыла будаўніцтва.

Тады працы аднавіліся, але ненадоўга. Апошнія паўтары гады будоўля стаяла замарожанай праз адсутнасьць фінансаваньня.

Цяпер працы зноў аднавіліся ў амаль што аўральным рэжыме. На аб’екце працуюць больш за 80 чалавек.

З вакон кватэры жыхара Шклова, намесьніка старшыні партыі БНФ Рыгора Кастусёва відаць будоўля. Паводле яго, ў суботу актыўнасьці на аб’екце не назіраецца. Фронтавец зазначае, што ня ў першы раз чуе абяцаньні чыноўнікаў здаць Лядовы палац, але, як і ў мінулыя разы ён сумняваецца ў чыноўніцкія запэўніваньні.

«Калі ўжо распачалі будаваць, дык трэба завяршаць. У будоўлю ўкладзеныя вялікія сродкі. Пагатоў, мясьціну, якую выбралі для Палацу, трэба ўпарадкоўваць найхутчэй, каб не засьмечваць узьбярэжжа Дняпра», даводзіць сваю пазыцыю палітык.

«З пазыцыі абываццеля, — працягвае ён. — Яго не цікавіць, адкуль бяруцца сродкі на Палац. Яму патрэбнае месца, дзе б ён займаўся спортам. Я гаварыў з многімі шклоўцамі: яны кажуць, што лядовая арэна ім патрэбная».

«Калі глядзець на Лядовы палац зь дзяржаўнага гледзішча, то ён для раённага бюджэту стане дужа дарагім задавальненьнем. Лічу, што Шклоў наўрад ці ў стане ўтрымаць гэтую забаву. Эфэктыўнасьць яго эксплюатацыі будзе дужа нізкай», — падсумоўвае Рыгор Кастусёў.

У афіцыйных камэнтарах гучыць: «спартовы аб’ект спрасьцілі і зрабілі таньнейшым, але на якасьці прац гэта не адаб’ецца». Акрамя спартовых мерапрыемстваў у Палацы зьбіраюцца праводзіць канцэрты. Сродкі на Шклоўскую арэну выдзелілі з абласнога бюджэту.

Каб здаць лядовы палац, неабходна, паводле афіцыйных крыніцаў, 260 мільярдаў рублёў. Зь іх засвоена, як паведамляецца, больш за 40 мільярдаў. Напачатку будаўніцтва ацэньвалася ў больш за сто мільярдаў.

*“Радыё Свабода”*

## В БЕЛЫНИЧАХ ВСЁ БОЛЬШЕ ПЕНСИОНЕРОВ

Как сообщает интернет сайт Белыничского райисполкома, на учете в управлении по труду, занятости и социальной защите состоит 6814получателей пенсий и пособий, в т.ч. 26 ветерана Великой Отечественной войны, 255 многодетных семей, 717 неполных семей.

Средняя заработотная плата по народному хозяйству Белыничского района в ноябре 2015 года сложилась на уровне Br5469,6 тыс. По сравнению с аналогичными периодами 2014 года темп роста номинальной заработотной платы составил 104,8%.

Реальная заработная плата в ноябре составила только 94,2% к зарплате в ноябре 2014 года.

## БЯЛЫНІЧАНІН ЮРЫЙ НЕСЦЯРЭНКА ВЫДАЎ НОВУЮ КНІГУ

**Вядомы бялыніцкі музыка і літаратар Юрый Несцярэнка напісаў новую кнігу "Маё мястэчка ў часе і прасторы".**

У кнізе Юрый распавядае пра вядомую і невядомую гісторыю родных Бялынічаў. Зборнік змяшчае шэраг дасціпных нарысаў, прысвечаных назвам вуліц мястэчка, найбольш цікавых яго мясцін і адметнасцяў, а таксама невялікі раздзел "сацыяльна-філасофскіх" развагаў пра сцежкі-дарожкі і бялыніцкія тратуары.

Асобнае месца ў кнізе займае калекцыя цікавых фотаздымкаў з розных месцаў Бялыніччыны.

Кніга "Маё мястэчка ў часе і прасторы" выйшла ў выдавецтве Зміцера Коласа напрыканцы 2015 года, аўтар прысвяціў яе бялынічанам - жыхарам мястэчка.

2015 год атрымаўся вельмі плённым для Юрыя Несцярэнкі, у яго першай палове Юрый Несцярэнка таксама выдаў кнігу "Звычайны шоў-бізнэс", прысвечаную цікавым выпадкам з сваёй музычнай кар'еры.

# ШКЛОЎСКІ РАЁН ЛІДЫРУЕ ПА КАРУПЦЫІ

**Больш за 60% стратаў ад карупцыі ў Магілёўскай вобласці прыходзіцца на Шклоўскі раён, заявіў на сустрэчы з журналістамі напярэдадні абласной каардынацыйнай нарады па барацьбе з злачыннасцю і карупцыяй пракурор Магілёўскай вобласці Аляксандр Чадзюк.**




Карупцыйнымі злачынствамі ў вобласці дзяржаве прычынены страты ў 27 мільярдаў рублёў, пакрыта на сённяшні дзень больш 10 мільярдаў рублёў, накладзены арышт на маёмасць пасадавых асоб на 15 мільярдаў. “Асноўная частка стратаў прычынена ў Шклоўскім раёне, калі намеснік старшыні райвыканкама разам з іншымі пасадавымі асобамі здзейсніў злачынства, звязанае з пастаўкай буйной рагатай жывёлы. Страты ад іх супрацьпраўнай дзейнасці ацэньваюцца ў 17 мільярдаў рублёў, часткова яны ўжо пакрыты”, - сказаў Аляксандр Чадзюк, паведамляе БелТА.

Нагадаем, што напрыканцы 2014 года да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за аферу з закупкай племяннoй жывёлы для патрэб гаспадарак раёна быў асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Мінянкоў.

У канцы верасня 2015 года Магілёўскі абласны суд прызнаў вінаватым у злоўжыванні ўладай былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама Яўгена Семянкевіча. Шклоўскі чыноўнік у абыход дзеючага заканадаўства палепшыў жыллёвыя ўмовы для сям’і сваёй дочкі, за што суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі ўзмоцненага рэжыму, канфіскацыю маёмасці, пазбаўлення цягам пяці гадоў права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў. Аднак да Семянкевіча была ўжытая амністыя, тэрмін яго пакарання зніжаны на адзін год, дзякуючы гэтаму былы шклоўскі чыноўнік правядзе ў турме не больш за два гады.

Узбуджалася крымінальная справа і ў адносінах да былой кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Людмілы Глякавай. Супраць былой шклоўскай чыноўніцы вылучалася абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, Людміла Глякава падазравалася ў крадзяжы 29 мільёнаў рублёў. Пэўны час былая “вертыкальшчыца” нават у трымлівалася пад вартай, аднак пазней кампенсавала страты, напісала прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі і, нібыта, кіраўнік краіны вызваліў яе ад адказнасці.

Таксама ў 2015 годзе ўзбуджалася крымінальная справа супраць былога намесніка дырэктара РУП “Завод газетнай паперы” у Шклове, “дзякуючы” дзеянням якога прадпрыемства недаатрымала 280 тысяч еўра. Зараз расследуецца крымінальная справа ў адносінах дырэктара УКП “Шклоўскі жылкамгас” Аляксандра Сямёнчанкі. Дырэктар падазраецца ў тым, што ў выніку яго дзеянняў эканамічна неабгрунтаваныя затраты прадпрыемства былі павялічаны больш чым на 1 мільярд руьлйў, што пацягнула цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення стратаў дадзенаму прадпрыемству ў асабліва буйным памеры і істотную шкоду дзяржаўным інтарэсам.

Найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў у Магілёўскай вобласці зарэгістравана ў сферах прамысловасці, гандлю, сельскай гаспадаркі і будаўніцтве. За 11 месяцаў 2015 года на Магілёўшчыне выяўлена 791 эканамічнае злачынства, зарэгістравана 202 карупцыйных злачынства, здзейсненыя 81 асобай, што болей, чым у мінулым годзе.

Па-ранейшаму назіраюцца негатыўныя працэсы ў сферы сельскай гаспадаркі вобласці: зарэгістравана 20 карупцыйных злачынстваў, з якіх 10 – крадзёж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Застаецца акруальнай праблема прыпісак, такіх злачынстваў за ўказаны перыяд выяўлена 60. Не менш карупцыйных злачынстваў і ў сферы будаўніцтва, дзе зарэгістравана 61 злачынства, з якіх 42 адносяцца да катэгорыі цяжкіх.

***Барыс Вырвіч***

## В ШКЛОВЕ ПОСТРОЯТ ГИДРОЭЛЕКТРОСТАНЦИЮ

Две гидроэлектростанции планирует построить в Могилевской области Минэнерго с привлечением прямых иностранных инвестиций. Эти планы отражены в стратегии развития энергетического потенциала Республики Беларусь.Одну из них – Могилевскую ГЗС мощностью 5,1 МВт – возведут на реке Днепр. Предполагаемый объем инвестиций данного проекта составляет 29,4 миллиона долларов США. На строительство второй – Шкловской ГЭС тоже на реке Днепр необходимо 28 миллионов долларов. Ее мощность составит 4,9 МВт, сообщает mogilevnews.by.

В целом в ближайшее время Министерство энергетики Беларуси планирует реализовать шесть крупных проектов по строительству гидроэлектростанций с привлечением прямых иностранных инвестиций. Реализация их запланирована на 2016-2019 годы.

Хорошо, конечно, что в Шклове регулярно появляются новые предприятия. Грустно только, что в соседних Белыничах и Круглом в это же время рабочих мест становится только меньше...

## БЯЛЫНІЧАНЕ НАКІРАВАЛІ Ў КРУГЛЯНСКІ РАЙВЫКАНКАМ ЗВАРОТ З ПАТРАБАВАННЕМ СПЫНІЦЬ ПАРУШЭННІ ПРЫРОДААХОЎНАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

**Грамадскія актывісты з Бялыніч 29 снежня накіравалі калектыўны зварот на імя старшыні Круглянскага райвыканкама Анатоля Шчуплянкова з патрабаваннем спыніць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства пры эксплуатацыі гідраэлектрастанцыі, якая знаходзіцца ў аграгарадку Цяцерына Круглянскага раёна.**

У звароце бялынічане скардзяцца на тое, што, у выніку непрадуманых дзеянняў пры эксплуатацыі Цяцерынскай ГЭС, перапад узроўню вады ў рацэ Друць на працягу дня часцяком складае больш за адзін метр. У выніку гэтага гіне расліннасць і іхтэафаўна, рака на тэрыторыі Бялыніцкага раёна паступова ператвараецца ў балота. Рацэ Друць наносіцца велізарныя экалагічныя страты, якія цяжка падлічыць. Грамадскія актывісты здзіўлены тым, што адпаведныя прыродаахоўныя органы і арганізацыі Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў чамусьці не звяртаюць на гэта ўвагі, хоць кантроль за станам навакольнага асяроддзя і выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства – іх непасрэдны абавязак.




Ніякіх мер па выпраўленню існуючай сітуацыі не прымаюць і органы выканаўчай улады Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў, хоць неабыякавыя грамадзяне неаднаразова ўздымалі перад імі пытанне аб захаванні флоры і фаўны ракі Друць.

Грамадзяне просяць старшыню Круглянскага райвыканкама паведаміць ім, якія меры прымаюцца Круглянскім РВК для забеспячэння выканання прыродаахоўнага заканадаўства і захавання флоры і фаўны ракі Друць. Таксама ў звароце кажацца пра тое, што адказ старшыні Круглянскага райвыканкама быдзе абавязкова накіраваны ў розныя экалагічныя арганізацыі, каб тыя маглі даць яму належную адзнаку.

Грамадскі актывіст з Бялыніч Пётр Шымбалёў, які быў ініцыятарам напісання звароту ў Круглянскі райвыканкам, кажа, што копія калектыўнага звароту таксама накіраваная ў Бялыніцкі раённы Савет дэпутатаў. Па словах грамадскага актывіста, многія з бялынічан абураны тым, што мясцовыя народныя абраннікі ніякім чынам не рэагуюць на парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на рацэ Друць, і ўсё ж хочуць пачуць іх меркаванне на гэты конт.

Пётр Шымбалёў раней узнімаў праблему з экалагічнай сітуацыяй на рацэ Друць у Бялыніцкім раёне ў 2014 годзе, калі спрабаваў вылучыцца кандыдатам у дэпутаты раённага Савета, і ў 2015 годзе, калі Цяцерынскае водасховішча наведвала кандыдат у прэзідэнты РБ Таццяна Караткевіч. Аднак мясцовыя ўлады адаюць перавагу таму, каб гэту праблему проста “незаўважаць”.

*Барыс Вырвіч*

### Милиция задержала в Шклове наркоманку

12 января в Шкловский РОВД поступил рапорт о том, что в этот день возле дома по ул. Вокзальной неработающая жительница г. Шклова, 1978 г.р., хранила при себе 0,501 гр. ацетилированного опия. Задержана в порядке ст. 108 УПК. Выявлено ГНиПТЛ, УИМ. 12 января СК возбуждено у/д по ст. 328 ч. 1 УК (Незаконный оборот наркотических средств).

## БОГДАНКЕВИЧ: ЗОЛОТОВАЛЮТНЫЕ РЕЗЕРВЫ МОГУТ УЙТИ В 2016 ГОДУ НА ПОГАШЕНИЕ ДОЛГОВ

**Весь объем золотовалютных резервов Беларуси может быть израсходован в нынешнем году на погашение внешних долгов.**

Такое мнение БелаПАН высказал бывший председатель правления Национального банка Станислав Богданкевич.

Он напомнил, что в 2016 году Беларуси надо будет выплатить внешних долгов более чем на 3 млрд. долларов.

Тем временем золотовалютные резервы упали почти до пятилетнего минимума. По итогам декабря 2015 года они сократились на 408,2 млн. долларов и, по предварительным данным, на 1 января 2016 года составили 4 млрд. 175,8 млн. долларов в эквиваленте. Таким образом, практически весь текущий объем ЗВР может уйти на погашение внешних долгов.

По словам Богданкевича, такой вариант развития событий вероятен в случае, если Беларусь не получит новых внешних заимствований. Однако и этого объема может оказаться недостаточно. «Потому что в резервах есть золото, другие драгметаллы, которые сперва еще нужно будет продать», — отметил экс-глава Нацбанка.

По его словам, в такой ситуации очевидно, что властям необходима программа реформ, под которую можно было бы получить внешние займы, что и предлагают реализовать вероятные кредиторы — МВФ и Евразийский фонд стабилизации и развития.

Еще одним выходом могла бы стать реализация принадлежащих государству активов, но цены на них сейчас очень сильно упали. «А так как наши крупнейшие госпредприятия и компании неэффективны, нерентабельны и убыточны, то они никому и за полцены не нужны. Даже, как

*(Окончание на стр. 5)*

## БОРИС ЖЕЛИБА: ЧТОБЫ ПОЛУЧИТЬ КРЕДИТ, ВЛАСТИ ГОТОВЫ ПОЙТИ НА ПОЛНОЕ ОБНИЩАНИЕ НАСЕЛЕНИЯ

В результате отмены государственного регулирования цены на самые необходимые продукты питания в Беларуси могут вырасти на 10-15%.

Совет министров Беларуси 11 января «отпустил цены» на многие продовольственные товары – такие, как хлеб, мясо, яйца, молочные продукты, детское питание.

Доктор экономических наук Борис Желиба прокомментировал это постановление Совмина в интервью «Салідарнасці» .

– Тут противоречивая ситуация – с одной стороны, наши кредиторы и особенно МВФ критикуют белорусскую политику в области ценообразования, что слишком много цен регулируется государством и в отдельные периоды замораживается, – пояснил он. – Они говорят, что нужно с этим заканчивать и переходить к свободному ценообразованию.

С другой стороны, чиновники могут попытаться списать все беды населения на требования кредиторов.

– Посмотрите, в какой период это делается – когда реальные зарплаты у людей падают, когда пенсии падают, когда растет безработица, – отметил экономист. – И если вдобавок к этому еще и цены на некоторые товары повысятся, то населению придется в таком случае просто выживать.

По мнению Бориса Желибы, чтобы получить кредит, «власти готовы пойти на окончательное обнищание населения»:



– Они думают, потом, мол, получим кредит на несколько миллиардов долларов и опять ничего менять не будем, опять рефинансируем долги и будет наша авторитарная экономическая модель существовать и дальше.

Эксперт допускает, что в результате отмены государственного регулирования цены на некоторые товары могут вырасти на 10-15%.

– Это товары достаточно популярные из-за бедности населения. А тут еще девальвация идет ускоренными темпами. И если она перейдет в фазу обвала, как это было в августе прошлого года, то будет еще один виток инфляции. Все это будет накладываться одно на другое, и мы получим существенный всплеск роста цен. Надо двигаться к рынку, но не ценой обнищания населения, – сказал Борис Желиба.

## КРИМИНАЛ В КРУГЛОМ

2 января в 3-10 в УЗ «Круглянская ЦРБ» с ранением живота в состоянии алкогольного опьянения из своего дома в д. Круча указанного района бригадой СМП доставлен и госпитализирован мужчина, 1972 г.р. СОГ установлено, что 1 января в квартире односельчанки телесные повреждения, в ссоре, пострадавшему причинил местный житель, 1987 г.р. Задержан в порядке ст. 108 УПК. 2 января Круглянским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжких телесных повреждений), сообщает uvd.mogilev.by.

## ДАЧАКАЛІСЯ "КВІТНЕННЯ"

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

нас будзе на пенсіі тады? Правільна – чыноўнікі, якія абслугоўваюцца ў лечкамісіі. Яны дажывуць», – адзначае ў сваім блогу эканамічны аглядальнік Дзмітрый Івановіч.

Памочнік кіраўніка краіны Кірыл Руды вельмі ўсхваляваны тым, што ў Беларусі ў жанчын вялікі дэкрэтны адпачынак, аж цэлых тры гады. Маўляў, яго скарачэнне да двух гадоў прынясе краіне значную эканомію бюджэтных сродкаў.

Штосьці мне падказвае, што дэкрэтны адпачынак у беларусак хутка стане нашмат карацейшы...

Мяне асабіста вельмі "прыкалвае", калі беларускія чыноўнікі пачынаюць казаць пра эканомію бюджэтных сродкаў. Так і хочацца запытацца: хлопцы, вы ж кіруеце ўжо амаль дваццаць два

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## Богданкевич: Золотовалютные резервы могут уйти в 2016 году на погашение долгов

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

я думаю, и российским олигархам», — добавил экономист.

«Полагаю, что даже золотовалютные резервы в размере текущих 4 млрд. долларов позволяют не допустить глобального обвала валютного курса и инфляции. При условии, что Национальный банк будет продолжать объявленную монетарную политику по ограничению роста денежной массы. И если будет сбалансирована внешняя торговля, включая сферу услуг, и если власти найдут ресурсы, чтобы покрыть дефицит текущего счета, который связан с погашением долгов», — отметил Станислав Богданкевич.

Когда сбалансирована внешняя торговля и более-менее эффективно работает экономика, то даже при нулевых резервах, как правило, ничего обвального не происходит, добавил он.

# ГРАМАДСКІЯ АКТЫВІСТЫ РАСПРАЦАВАЛІ ПРАЕКТ СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ КРУГЛЯНСКАГА РАЁНА ДА 2030 ГОДА

**Чальцы грамадскай ініцыятывы “Падворак” распрацавалі праект стратэгіі развіцця Круглянскага раёна да 2030 года.**

Грамадскія актывісты з Круглянскага і суседніх раёнаў Магілёўскай вобласці на працягу двух месяцаў правялі адмысловае анкетаванне больш за 500 жыхароў Кругляншчыны. Грамадзяне адказвалі на пытанні, якія праблемы іх найбольш хвалююць, і што можна зрабіць для выпраўлення існуючай у Круглянскім раёне сітуацыі. На аснове праведзенага анкетавання грамадскімі актывістамі быў распрацаваны праект стратэгіі развіцця Круглянскага раёна да 2030 года.

Каардынатар грамадскай ініцыятывы кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі адзначае, што анкетаванне і распрацоўка праекта стратэгіі развіцця рабілася для таго, каб больш даведацца аб праблемах, якія хвалююць жыхароў Кругляншчыны, і прапанаваць шляхі іх вырашэння. Падчас правядзення анкетавання вялікіх праблем у грамадскіх актывістаў не ўзнікала, жыхары Круглянскага раёна, у асноўным, ахвотна адказвалі на пытанні. Мясцовыя ўлады таксама вялікіх перашкод не чынілі. Пётр Сцяпанавіч кажа, што грамадскія актывісты былі гатовы да супрацоўніцтва з раённымі ўладамі. Напачатку снежня ён асабіста перадаў пракурору Круглянскага раёна Аляксандру Тарасюку першасны аналіз праведзенага апытання і распрацаваныя грамадскімі актывістамі па яго выніках прапановы па далейшаму развіццю раёна. Другі экзэмпляр матэрыялаў праведзеных даследванняў быў накіраваны старшыні Круглянскага райвыканкама Анатолю Шчуплянкову.

Зараз чальцамі “Падворка” падрыхтавана адмысловая брашура з вынікамі маніторынгу грамадскага меркавання ў Круглянскім раёне па розных накірунках, асноўных праблемах Круглянскага раёна і шляхах іх пераадолення. Таксама ў брашуры выкладзены праект стратэгіі развіцця Круглянскага раёна да 2030 года.

Сярод праблем, якія найчасцей узнімаліся жыхарамі Круглянскага раёна пачас анкетавання, - тое, што людзям у раёне проста няма куды ўладкавацца на працу, нізкі ўзровень заробкаў і пенсій, адсутнасць прамысловасці ў раёне, дрэнная якасць вады ў Круглым і раёне, нізкі ўзровень медыцынскага абслугоўвання насельніцтва ў раёне.

У прыватнасці, пра вялікі ўзровень беспрацоўя ў Круглянскім раёне сказалі 351 чалавек з 500 апытаных. За апошнія гады тут перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізаваны шэраг калгасаў і саўгасаў. У адзіным стабільна працуючым прадпрыемстве Круглянскага раёна, Круглянскай ПМК-266, зараз мноства праблем з-за адсутнасці патрэбнай колькасці замоў на будаўніцтва і несвоечасовай аплаты за ўжо выкананыя работы.

Круглянскія ж чыноўнікі, у адрозненне ад простых грамадзян, чамусьці лічаць, што праблема беспрацоўя для раёна не актуальная – згодна афіцыйных дадзеных мясцовых статыстыкаў, беспрацоўе ў Круглянскім раёне імкліва набліжаецца да нуля.

Чэсна кажучы, мне асабіста гэта вельмі дзіўна, бо самі круглянскія чыноўнікі налічылі напрыканцы 2014 года ў Круглянскім раёне спачатку аж 1859 так званых дармаедаў (людзей працаздольнага ўзросту, якія афіцыйна нідзе не працуюць). Праўда, пазней красавіку 2015 года гэта лічба чамусьці зменшылася ў іх да “парадку 1,3 тысячы” чалавек. Усяго ж Круглянскім раёне зараз пражывае каля 14 200 чалавек. Верагодна, круглянскія чыноўнікі лічаць, што “праклятыя дармаеды” проста не



хочуць працаваць, і вольных працоўных месцаў у раёне хоць заваліся. І нічога, што за апошні час нават у адзінай стабільна працуючай круглянскай арганізацыі, мясцовай ПМК-266, колькасць працуючых скарацілася больш чым на трыста чалавек…

Пётр Мігурскі лічыць, што зараз эканоміка Круглянскага раёна дайшла да пэўнай мяжы, пагаршэнне яе параметраў прывядзе да банкротства раёна ў цэлым. Сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў раёне склалася такім чынам, што ўжо зараз не фармуецца нават мінімальны ўзровень падаткаў для ўтрымання адміністрацыйнага апарата райвыканкама і другіх упраўленчых структур, і выключаецца магчымасць самастойнага развіцця раёна. Каля 66% даходаў бюджэту Круглянскага раёна фармуецца за кошт міжбюджэтных трансфертаў (датацый з абласнога і рэспубліканскага бюджэту). І толькі імклівы працэс рынкавых пераўтварэнняў, развіццё мясцовага самакіравання, аптымізацыя кіруючага раёнам персанала дазволіць захаваць Круглянскі раён у якасці адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

*Іван Барысаў*

По информации районного отдела ЗАГС в 2015 году в Белыничском районе родились 234 ребенка, в 2014 году – 241.

Узами брака связали себя 156 пар, в 2014 году – 189.

В январе-декабре 2015 года умерли 397 жителей района, в 2014 году – 420.

## ДАЧАКАЛІСЯ "КВІТНЕННЯ"




*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 5)*

гады без перапынку, няўжо раней не ведалі, што грошы патрэбна эканоміць? Хто будаваў прэзідэнцкія і лядовыя палацы, штампаваў пацёмкінкія аграгарадкі, а не новыя эфектыўныя прадпрыемствы, утрымліваў і працягвае ўтрымліваць шалёную колькасць чыноўнікаў і сілавікоў? Праклятыя БНФ-цы, ці вы, "разумныя і прыгожыя"?

Таксама хочацца задаць яшчэ адно пытанне: зразумела, можны падняць пенсійны ўзрост для пажылых людзей, скараціць дэкрэтны адпачынак жанчынам, аднак ці змогуць нашы слаўныя чыноўнікі працаўладкаваць усіх гэтых людзей? Магу адказаць са ўсёй упэуненасцю - не. У нас у рэгіёне,у Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім раёнах, годнай працы з прыстойным заробкам проста няма. Паўсюль на прадпрыемствах і ў арганізацыях ідуць прыхаваныя скарачэнні, чыноўнікі настойліва рэкамендуюць кіраўнікам скарачаць выдаткі на заробкі і прэміі. Паверце мне на слова, інфармацыя дакладная, атрыманая з цэлага шэрагу надзейных крыніц.

І ў прыватныя прадпрымальнікі людзі зараз не пойдуць. Па-першае, у іх няма грошай, каб распачаць свой невялікі бізнэс. Падругое, і ў тых прадпрымальнікаў, хто яшчэ працуе, па вобразнаму выразу Аляксандра Рыгоравіча, "скончыліся вашы мядовыя гады". Ну, "мужныя" ІП самі шмат у чым вінаватыя, яны заўсёды падтрымлівалі свайго любімага кіраўніка і казалі пра тое, што палітыка іх не цікавіць. А Рыгоравіч жа папярэджваў, што хутка пацісне руку апошняй "вашывай блыхе". Так што за змагаліся, на тое і напароліся.

Застаецца толькі здагадвацца, чаму нашы любімыя ўлады вырашылі перайсці ў рэжым жорсткай эканоміі толькі на дзевяты год эканамічнага крызісу, перад гэтым тры разы правёўшы дэвальвацыі і канчаткова абчысціўшы кішэні простых беларусаў. Магчыма, проста пераканаліся, што беларусы ўсё сцерпяць...

Вось і дэпутаты Бялыніцкага раённага Савета вырашылі, што ў людзей грошай яшчэ "хоць заваліся", таму і паднялі ў снежні 2015 года падатак на нерухомасць і зямельны падатак у чарговы раз. Зразумела, грошай у раённым бюджэце катастрафічна не хапае, аднак і ў простых бялынічан іх таксама кот наплакаў. Няўжо нашы дэпутаты настолькі адарваныя ад народа і не разумеюць тое, што людзі проста кінуць гэту зямлю абпрацоўваць і яна будзе пуставаць?

Ну што тут скажаш, самі выбіралі і любімага прэзідэнта, і клапатлівых дэпутатаў. Таму будзем "квітнець" далей.

***Іван Барысаў***

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ СПЫНІЛА СВОЙ ВЫХАД ЧАРГОВАЯ НЕДЗЯРЖАЎНАЯ ГАЗЕТА

**З 2016 года ў Магілёўскай вобласці больш не будзе выходзіць газета "Рэгіянальныя ведамасці". Пра гэта паведаміў у апошнім нумары "Рэгіянальных ведамасцяў" за 2015 год галоўны рэдактар газеты Юрый Камзолаў.**

Спыненне выхаду "Рэгіянальных ведамасцяў" абумоўлена неплацяжамі з боку рэкламадаўцаў і цяжкім фінансавым станам выдання. "Пры не малых даўгах газеце за рэкламу сёння "Рэгіяналка" не ў стане стартаваць разам з вамі ў новы свой год", - паведаміў у рэдактарскім артыкуле Юрый Камзолаў. Рэдактар падзякаваў чытачоў за падтрымку і ўзгадаў аўтараў, якія на працягу шэрагу гадоў супрацоўнічалі з "Рэгіянальнымі ведамасцямі".

Газета "Рэгіянальныя ведамасці" распаўсюджвалася на тэрыторыі г. Горкі і Горацкага раёна. Выданне выходзіла раз на тыдзень з жніўня 1999 года, асвятляла сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё ў рэгіёне.

У 2004 годзе Міністэрства інфармацыі на тры месяцы прыпыняла дзейнасць ліцэнзіі на выданне "Рэгіянальных ведамасцяў", бо там палічылі, што сапраўдная тэматыка, тэрыторыя распаўсюду, перыядычнасць і мова выдання не адпавядалі інфармацыі, якая была заяўлена пры рэгістрацыі. Дэмакратычная грамадскасць Горак лічыла афіцыйныя прычыны прыпынення выдання газеты чыста фармальнымі і звязвала іх з крытычнымі адносінамі газеты да сітуацыі ў краіне.

Пэўны час з "Рэгіянальнымі ведамасцямі" супрацоўнічаў вядомы горацкі журналіст Эдуард Брокараў, які пазней у 2009 годзе заснаваў абласную агульнапалітычную газету "Узгорак".

***Барыс Вырвіч***

# ЗАБІТЫ Ў ДАНЕЦКУ «КАМАНДЗІР ДНР» АКАЗАЎСЯ ЖЫХАРОМ МАГІЛЁВА




**Расійскія СМІ паведамілі пра забіццё «падпалкоўніка ДНР» Яўгена Конанава. У ім апазналі жыхара Магілёва, які паехаў ваяваць на ўсход Украіны ў траўні 2014 года.**

Медыярэсурсы сепаратыстаў усхваляюць заслугі грамадзяніна Беларусі вельмі высока. Ён быў намеснікам камандзіра брыгады нейкай 100 мотастралковай брыгады.

«Кот (пазыўны Конанава) быў сапраўдным вайскоўцам, які прайшоў гарачыя кропкі на Паўночным Каўказе. І калі навісла пагроза існаванню рускага Данбасу, ён без усялякіх сумневаў устаў на яго абарону. Вечная памяць табе, верны сын свабоднага стэпу», – заявіў мясцовым журналістам нейкі Аляксандр Мацюшын, пазыўны «Вараг».

Сапраўды, Конанаў нават браў удзел у вайсковым парадзе, якія атрады сепаратыстаў зладзілі ў цэнтры Данецку, ішоў на чале калоны свайго батальёну. На здымку ён пасярэдзіне.

Пра тое, што Яўген Конанаў прыехаў на Данбас практычна ў самым пачатку баявых дзеянняў, сведчаць і здымкі, якія ён час ад часу выкладваў у сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі».

Любіў фатаграфавацца побач з дарагімі іншамаркамі са зброяй.

У «Аднакласніках» карыстаўся нікнэймам «111111111», апошні раз заходзіў на сваю старонку 10 студзеня, сярод сяброў у яго шмат магілёўцаў.

У Магілёве сярод сяброў Конанаў меў мянушку Коша. Рос з маці, якая ў 1990-х была камерцыйным дырэктарам на Рэгенератарным заводзе. Жылі ў цэнтры, насупраць гасцініцы «Магілёў».

Пасля службы ў дэсанце ў Мар'інай Горцы вярнуўся дамоў, але на грамадзянцы жыццё не вельмі ўдалося. Яўген Конанаў рана ажаніўся, у Магілёве ў яго засталіся 2 дачкі.

Па непацверджаных звестках, Конанава судзілі ў Магілёве за разбой.

Пасля судовага пакарання Конанаў паехаў у Маскву зарабляць на будоўлі. Там таксама кагосьці абрабаваў. Яго пазбавілі волі ўжо ў Расеі, але нейкім дзіўным чынам ён апынуўся ў Данецку.

Тут ён сустрэў жанчыну і завёў новую сям'ю. У жніўні ў Яўгена Конанава нарадзіўся сын. У Магілёў вяртацца, відаць, ужо не збіраўся. Загінуў ад кулі снайпера. Выглядае на тое, што смерць Конанава звязаная з разборкамі сярод баевікоў. Былы магілёвец з крымінальнымі «заслугамі» біяграфіяй будзе пахаваны недзе пад Данецкам.

***Паводле «Беларускі партызан»***

## Анекдот дня

Если женщины не обращают на вас внимания, попробуйте возглавить банк.

СМС от жены:

«Ушла туда, куда послал. Веду себя так, как назвал. И почему я тебя раньше не слушала?»

## ИЗ СВОДКИ УВД

4 января СК возбуждено у/д по ст. 154 ч. 2 УК (Истязание) в отношении неработающего жителя г.п. Белыничи, 1977 г.р., который в период с января по декабрь 2015 года по месту жительства ул. Дайнеко систематически избивал жену, 1986 г.р. Раскрыто УИМ.

1 января в 12-35 в Шкловском районе 47-летний житель деревни Смольянцы, управляя автомашиной «Ауди-80» по автодороге Орша–Шклов–Могилев, вблизи деревни Просалы не выбрал безопасную скорость движения, не справился с управлением, его автомобиль съехал в левый по ходу движения кювет, врезался в дерево и опрокинулся. В результате ДТП водитель получил закрытую черепно-мозговую травму, сотрясение головного мозга, ушиб шейного отдела позвоночника, множественные ушибленные раны лица и головы. Госпитализирован.

6 января СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающего, ранее судимого жителя г.п. Белыничи, 1994 г.р., который 29 декабря 2015 года около 0-30 в а.г. Вишов из дачного дома местной жительницы, 1963 г.р., путем взлома двери, похитил куртку, DVD-проигрыватель на сумму 2 000 000 руб. Раскрыто ОУР. Похищенное изъято.

13 января СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении ранее судимого жителя д. Лямница Белыничского района, 1993 г.р., который в период с 15 июля по 31 декабря 2015 года из гаража односельчанина, 1964 г.р., путем перепиливания дужки навесного замка, похитил 4 электродвигателя, наборы ключей, лопату, топор на общую сумму 25 млн. руб. Часть похищенного изъята. Раскрыто ОУР, сообщает uvd.mogilev.by.

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 14.01.2016 г. у 19 -00.